Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

№ 5 (20) Вільня, 1 Траўня 1936 г. Год III

# НОВЫ ШЛЯХ

Орган Беларускіх Нацыянал-Сацыялістаў

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Балтупская 14—6 (Wilno, Bołtupska 14 — 6). Рэдакцыя адчынена штодня ад 10 да 3 г. дня.

„Новы Шлях“ выходзіць раз у месяц за кошт ахвяр сяброў і сымпатыкаў Беларускіх Нацыянал-Сацыялістаў.

## 1 траўня — сьвята працы.

Кожны год працоўныя ўсяго сьвету сьвяткуюць дзень першага траўня.

Сэнс гэтага сьвяткаваньня палягае на заманіфэставаньні грамадзкай сьведамасьці работнікаў і сілы, якая маецца ў будучыні перабудаваць існуючы буржуазна-капіталістычны лад на такі, дзе ідэя сацыяльнай справядлівасьці была-б ягоным угрунтаваньнем.

У гэты дзень працоўныя выразна выяўляюць сваё жаданьне пра неабходнасьць гэтакай перабудовы, каторая ёсьць патрэбнаю — у інтарэсах як працоўных масаў, так і ў інтарэсах усяе людзкасьці і цывілізацыі.

Дзень першага траўня ёсьць ня толькі днём выяўленьня волі працоўных да лепшай будучыні, але і дэманстрацыяю грамадзкаў дысцыпліны.

Ува ўсіх цывілізаваных краёх гэтае сьвята праходзіць урачыста і пры адпаведным сьвяточным настроі, а ў нацыянал-сацыялістычнай Нямеччыне і ў Латвіі першага траўня прызнана афіцыяльна сьвятам нацыянальным. На гэты самы час шыкуюць усюды свае выступленьні і камуністы, каторыя імкнуцца ператварыць гэнае сьвяткаваньне ў звычайнае забурэньне, разьбіваючы еднасьць працоўных масаў.

Правакацыяю, здрадаю, а нават тэрорам і забойствамі яны стараюцца перацягнуць частку нясьведамых на свой бок і ськіваваць іх на сьлізкі шлях анархіі, патрэбнай маскоўскаму камінтэрну для захапленьня ўлады.

З гэтай прычыны штагод мы зьяўляемся сьведкамі праліву работніцкай крыві на вуліцах вялікіх гарадоў Эўропы...

Але паступова і няўхільна павялічваецца грамадзкая і нацыянальная сьведамасьць народаў, — у выніку чаго камуністы застаюцца проста выкіненымі з работніцкага серадовішча. Гэта, напрыклад, мы бачым цяпер у Нямеччыне, дзе сьвята працоўных абыходзіцца бяз удзелу камуністаў і дзе ўвесь народ зьліўся ў адналітую масу грамадзян, сьведамых сваіх нацыянальных і сацыялістычных мэтаў.

І для нас, беларускіх нацыянал-сацыялістаў, першага траўня ёсьць сьвятам, бо нашыя сацыяльныя ідэалы ня могуць пагадзіцца з сучаснаю капіталістычнаю рэчаістасьцю.

Але ў сваей грамадзкай дзеяльнасьці мы будзем імкнуцца да таго, каб на нашых землях наступіў некаліс такі шчасьлівы час, калі ўвесь працоўны Беларускі Народ сьведама і арганізавана прымаў-бы удзел у сьвяткаваньні першага траўня і каб у гэты дзень у ягоных шарэнгах ня было тых шкодных і раскладовых элемэнтаў, каторыя падгатаўляюць нам нацыянальную загубу...

# Нашае партыйнае будаўніцтва

Беларускія нацыянал-сацыялісты прарабілі ўжо паважную працу.

Друкуючы ад даўжэйшага часу (ад 1933 году) „Новы Шлях“, здолелі высьвятліць свае пагляды ў галоўных праграмовых пытаньнях. Гэтыя пагляды, адрозьніваючыя нас ад усіх іншых беларускіх палітычных кірункаў, мы сфармулявалі ў апублікаванай праграме, каторая будзе цьвёрдаю падставаю ў нашай грамадзкай працы.

У апошнім нумары свайго часапісу мы зьмясьцілі праект арганізацыйнага статуту, каторы павінен быць зацьверджаны агульным зьездам нашых сяброў.

Наступным крокам будзе скліканьне гэтага зьезду, пасьля чаго Б.Н.С.П. зможа прыступіць да нармальнай працы. — Уважаем, што першы агульны зьезд будзе мець паважнае значэньне ў гісторыі нашай партыі, бо на ім надасцца галоўны кірунак нашай палітычна-грамадзкай працы.

З гэтай прычыны трэба добра падгатавацца да зьезду, трэба паклікаць на яго такіх сяброў, каторыя запраўды на ўсе сто працэнтаў падзяляюць праграму партыі і маюць ініцыятыву і здольнасьці да самаахвярнай працы.

Наглядальнікаў і нічоганяробаў нам не патрэба і дзеля таго пакліканымі на зьезд могуць быць толькі запраўдныя актывісты, у каторых словы не разыходзяцца з дзелам.

Лепш сабраць меншую колькасьць сяброў, але затое добра знаных на беларускім грунце і маючых пэўную грамадзкую вартасьць. Першы арганізаваны зьезд мы ўважаем за такі дзейнік, каторы дасьць нам праўныя падставы да існаваньня Б.Н.С.П. — зацьвердзіць арганізацыйны статут і выбера дастойных сяброў у партыйную верхавіну, а тым самым паложыць падваліны партыйнага будаўніцтва.

Дзеля гэтых спраў нам у сучасную хвіліну зусім непатрэбны некі вялікі і гучны зьезд, на каторым маглі-б апынуцца і сябры, ня маючыя яшчэ цьвёрда ўстабілізаваных партыйных паглядаў.

На вонкавых эфэктах нам не залежыць і дзеля таго мы робім толькі тое, што ёсьць канешна патрэбным для поступу ў нашай працы. — Бяручы пад увагу ўсьцяж павялічываючуюся напружанасьць палітычнага і грамадзкага жыцьця ўва ўсім сьвеце, а таксама, як гэта даецца заўважыць, і на нашых землях — са скліканьнем партыйнага зьезду трэба прысьпяшыць.

Заўсёды, аднак, у нас, беларусаў, на перашкодзе стаіць нават у самых грамадзкі-неабходных і рупных справах — адсутнасьць грашовых сродкаў, што тлумачыцца выключна галітою, як нашай беспрацоўнай інтэлігэнцыі, так і ўсяго сялянства.

Але як-бы там ня было — спачуваючае нам грамадзянства мусіць напружыць усе высілкі і прыйсьці нам з дапамогаю.

Асабліва-ж гэта датычыць тых, хто ўважае сябе за нацыянал-сацыяліста і хто тым самым мусіць падаваць прыклад самаахвярнасьці ўсяму грамадзянству.

# „Старыя“ і „маладыя“.

Заўсёды на сьвеце было і будзе так, што старое ўступае сваё месца маладому.

У нармальных абставінах моладзь прадаўжае распачатую працу „бацькоў“, дапаўняе яе, паглыбляе і дапасоўвае да новых жыцьцёвых абставінаў і вымогаў часу.

Але гэта ня значыць, што „бацькі“ адыходзяць ад жыцьця, не вычарпаўшы ўсіх сваіх сілаў і не выкарыстаўшы да канца таго запасу веды, каторы можна сабраць толькі ў працягу дзесяцігодзьдзяў цяжкай і сыстэматычнай працы.

Гэтакая веда ёсьць запраўднаю народнаю скарбніцаю, каторая і перадаецца як спадчына малодшай гэнэрацыі.

Моладзь пераймаючы працу старэйшых і бяручы на сябе ўсе яе цяжары не павінна зрываць з тымі, хто яе „парадзіў“, бо гэта прынясло-б адну толькі шкоду для народнай справы, дый, урэшце, устрымала-б усякі поступ у грамадзкім жыцьці.

Асабліва гэта павінна датычыць нас, беларусаў, дзе наагул гэтых старэйшых вельмі мала, а маладыя дзякуючы цэламу раду дэмаралізуючых абставінаў, у каторых апынуўся Беларускі Народ, у большасьці выпадкаў даюць вельмі слабую надзею на тое, што з іх будзе некалісь грамадзкая карысьць.

Каб ня быць галаслоўным, даволі будзе зацеміць на гэтым месцы хаця-бы той факт, што з усей нашай студэнцкай моладзі, якая вучыцца ў Вільні, маюць цывільную адвагу ўступіць у сябры Белар. Студэнцкага Саюзу ўсяго толькі 50% усіх студэнтаў..

А дзе-ж рэшта беларускай моладзі?

На гэтае пытаньне няхай адкажуць тыя, хто ў гэтакі „грозны“ і на наш пагляд недапушчальны спосаб абрушыўся на старэйшае беларускае грамадзянства, абвінавачваючы яго ўва ўсіх сьмяротных грахох.

З мэтаю грамадзкай дыскваліфікацыі старэйшай беларускай гэнэрацыі група „маладых“ пачала выдаваць нават спэцыяльны „грамадзка-навуковы“ часапіс „Маладая Беларусь“.

„Наша старэйшае грамадзянства“ са зьдзіўленьнем чытаем мы ў рэдакцыйным артыкуле першага нумару гэтага часапісу: „кіруючае беспасярэдна ці пасярэдна ўсім культурным і грамадзкім арганізаваным жыцьцём, думае ў значнай меры катэгорыямі перастарэлымі і неактуальнымі ўзалежняючы ад іх усю сваю дзейнасьць... Цэлыя кадры маладой беларускай інтэлігенцыі ня могуць з гэтых прычынаў уліцца ў існуючыя арганізацыйныя формы культурнага і грамадзкага жыцьця, бо гэтыя формы для яе за вузкія“.

Урэшце, аб гэтым усім друкуецца спэцыяльная адозва Прэзыдыюму нашага актыву.

Не адкладваючы справы — усім нашым сябром трэба цяпер-жа заняцца падрыхтоўкаю да зьезду.

Гэта значыць, што трэба ня толькі зьбіраць грашовыя сродкі на арганізацыю зьезду, але абгаварыць і тое, каго на гэты зьезд было-б найбольш адпаведным пасласць.

Выбраўшы такога кандыдата, нацыянал-сацыялістычная сябрына падасьць ягонае прозьвішча і адрэс у рэдакцыю нашага часапісу.

Пасьля зазнаямленьня з гэтаю кандыдатураю Прэзыдыюм Нацыянал-Сацыялістычнага Актыву вышле яму спэцыяльныя запросіны на зьезд, дзе ён будзе карыстацца з права голасу ўва ўсіх справах, каторыя будуць там вырашацца.

Дык вось — трэба рыхтавацца да зьезду, бо надыходзіць час, калі наша грамадзянства павінна высунуць із свайго серадовішча ўсе актыўныя сілы, патрэбныя для дабра Беларускай Нацыі. — Надыходзяць падзеі, каторыя не павінны застаць нас непадгатаванымі...

## Да ўсіх прыхільнікаў

### беларускага нацыянал-сацыялістычнага руху.

Пры цяжкіх абставінах прыходзіцца вясьці беларускім нацыянал-сацыялістам сваю працу.

Ворагі Беларускага Народу, утварыўшы пад кіраўніцтвам маскоўскага камінтэрну г. зв. „народны фронт“, вядуць наступ на ўсё нацыянальна-дзеючае беларускае грамадзянства, а ў першую чаргу абрушваюцца на беларускіх нацыянал-сацыялістаў, як авангард проці-камуністычных сілаў нашага народу.

Мы цьвёрда верым, што пасьля жорсткай барацьбы, якой не амінуць ня толькі ў нас, але і ў іншых краёх — варожыя сілы, каторыя імкнуцца паняволіць народ і ўстанавіць жыдоўска-камуністычную дыктатуру ўва ўсім сьвеце — будуць разьбіты. Усякая барацьба патрабуе ахвяраў і беларускія нацыянал-сацыялісты на іх гатовыя.

Але і ўсё іншае грамадзянства ня можа заспакоіцца роляю звычайнага наглядальніка.

Яно, пасколькі нам спачувае, павінна памагаць нацыянал-сацыялістычнаму руху асабістаю працаю і матэрыяльна.

У сучасную хвіліну мы пераходзім да арганізацыйнага будаўніцтва і ў хуткім часе склікаем зьезд сваіх сяброў.

Нам патрэба часьцей выдаваць партыйны часапіс, патрэбна друкаваць брашуры і кніжкі праграмовага зьместу і выяжджаць на правінцыю ў мэтах прапагандовых і арганізацыйных. — Словам, трэба разгарнуць шырэйшую працу, а гэта ўсё злучана з грашовымі выдаткамі.

Нашыя фінансавыя магчымасьці вельмі абмежаваныя і гэта змушае нас зьвярнуцца не з просьбаю, а з дамаганьнем, каб нам дапамаглі ўсе тыя, хто здольны пачувацца

---

Сказана вельмі сьмела і рашуча, але ці адпавядае гэта запраўднасьці?

Ці-ж усё старэйшае беларускае грамадзянства настолькі ўжо „адрахлела“, што трудна дайсьці з ім да паразумленьня ў справах грамадзкіх?

Нам здаецца, што пакульшто толькі гэтае грамадзянства і руліцца аб усім нашым грамадзкім і культурным жыцьці — якімі-б „перастарэлымі“ і „неактуальнымі“ катэгорыямі яно ні думала.

Мы пераканаЂы і ў тым, што ня будзь гэтага грамадзянства (каторае, да рэчы сказаць, складаецца з лічаных адзінак) — беларуская справа выглядала-б на нашых землях зусім інакш, але мейсца для пацехі кожнаму шчыраму беларускаму патрыёту ня было-б...

На нашым грунце справа з абвінаваньнямі кіраўнічай часткі нашага грамадзянства—рэч ня новая.

Куды байчэй выступалі з гэтым самым выдаўцы і рэдактары часапісу „Беларусь Працы“, але выпусьціўшы ў сьвет ўсяго толькі пяць нумароў—на гэтым закончылі, не знаходзючы іншых тэмаў для свайго красамоўства.

Ня хочам быць прарокамі і ня будзем спадзявацца таго, што сталася з папярэднікамі „Маладой Беларусі“, узяўшымі „курс“ на падрываньне аўтарытэту нашага грамадзкага актыву.

«Маладыя» скаржацца, што яны ня могуць працаваць у існуючых арганізацыйных формах, бо на перашкодзе таму стаіць „старэйшае грамадзянства“, перашкаджаючае ім разьвярнуць грамадзкія здольнасьці.

Сумляваемся, каб толькі з гэтых прычын значная частка нашай моладзі старанна адсоўвалася ад беларускага грамадзкага жыцьця і выяўляла жалюгодны абсэнтызм.

А чым гэта вытлумачыць, што мы ня бачым у радох беларускага нацыянальна-дзеючага грамадзянства тых маладых інтэлігентаў, каторыя за часоў зваяго студэнцтва трымаліся беларускіх арганізацыяў, а пасьля па атрыманьні ўнівэрсытэцкага дыплёму „зашыліся“ недзе ў канцэлярыі, цярпліва чакаючы на службовы аванс і заглажваюць свае беларускія „грахі“?

Нам здаецца, што галоўная прычына гэтага сумнага зьявішча палягае на звычайным вырахаваньні натуры матэрыяльнай, нічога ня маючай супольнага ні з „вузкімі формамі“, ні з запраўднаю ідэёвасьцю і самаахвярнасьцю на карысьць беларускай справы.

Дзьверы ўва ўсе беларускія арганізацыі для беларускай моладзі шырака адчынены і ня было, здаецца, выпадку, каб там не знашлося працы для кожнага, хто ішоў туды са шчырым жаданьнем прыслужыцца Беларускаму Народу.

Звальваць усю віну на старэйшых — гэта значыць затушоўваць запраўдны стан рэчаў,

да грамадзкага абавязку і хто ідэі намі распаусюджваныя прызнае за свае уласныя.

Зьвяртаемся да ўсіх беларусаў, якія жывуць ня толькі ў межах Польшчы, але і ў іншых краёх, і заклікаем складаць ахвяры на партыйны і выдавецкі фонд, скіроўваючы іх па адрэсу нашага часапісу.

Аб усіх прысланых грашовых сумах будзе пададзена справаздача на шпальтах „Новага Шляху". Той, хто не хацеў-бы, каб было зьмешчана ягонае прозьвішча — павінен зазначыць гэта на перакaзе і падаць свой псэўданім.

Вільня, 25 красавіка 1936 г.

За Прэзыдыюм
Беларускага Нац.-Сацыяліст. Актыву:
Старшыня *Ф. Акінчыц.* Сакратар *Ул. Казлоўскі.*

## Калі гэта скончыцца?

Ад 23-га да 31-га III. 1936-га году адбываўся ў Акружным Судзе ў Вільні суд над рэдактарамі і супрацойнікамі б. „Белар. Газэты", „Асвы" і „Літар. Старонкі". Усіх судзілі за камунізм. Разам з беларусамі ў гэтай самай справе сядзелі на лаве падсудных маладыя жыды на чале з Паташнікам. Суд срога пакараў абвінавачаных даючы ад 8 да 3 гадоў вязьніцы, і як людзей, трэба іх шкадаваць. Але нас тут цікавіць іншае. Нам паўстае пытаньне: дакуль падобныя суды будуць мець месца ў нашым грамадзянстве? Ці-ж тое, што сталася з б. „Грамадаўцамі" і „Змаганцамі" нікога нічога не навучыла? Ці-ж мала яшчэ трагэдыі, якой былі сьведкамі беларусы і якую ўсе яшчэ добра памятаюць? Ня так даўно яшчэ калі дзеячы з „Грамады" і „Змаганьня" апявалі пад нябёсы „савецкі рай", „вясну народаў", „беларускі дом" і г. п. цуды. За гэны салодкі сьпеў Саветам яны тут цярпелі зьдзекі і турму — аж урэшце дабраліся да таго савецкага раю. І што-ж? — пераканаліся, што ў тым „беларускім доме" беларусам няма месца. А той абяцаны рай аказаўся фактычна раем для жыдоў. Беларускія-ж пяўцы гэнага раю Дварчаніны, Гаўрылікі і ім падобныя апынуліся ў Салаўках, у Сыбіры, у лёхах Чэ-ка, а некаторыя знайшлі месца ў магіле.

Пасьля такога трагічнага канца пяўцоў савецкага раю, здавалася, што ўжо нікога з думаючых беларусаў ня знойдзецца, хто-б пачынаў ізноў тое самае, над чым так ганебна апякліся „Грамадаўцы" і „Змаганцы". Аднак знаходзяцца наіўныя! — Гэткае зьявішча можна вытлумачыць хіба толькі вялікім спрытам жыдоў, якія седзючы закансьпіраваныя ў К.П.З.Б. баламуцяць „дурных гояў" абацанкамі савецкага раю. Гэтае баламуцтва да таго атуманівае некаторых беларусаў, што самыя яны называюць незалежнасьць свайго Краю фікцыяй, як гэта мела месца падчас вышмянаванага працэсу ў Вільні. (А. Будзічанка). Такія атуманеныя беларусы выконываюць сьлепа загады, нямаючы нічога супольнага з беларускай нацыянальнай справай. Што, напрыклад, мае супольнага наш селянін з судовымі працэсамі Дымітрава і іншых камуністаў у Бэрліне? Аднак рэдактары

---

падрываць давер і пашану да ўсяго таго, што з вялікім накладам энэргіі і самаахвярнасьці зроблена беларускаю інтэлігенцыяю, да каторай гэтак варожа адносяцца чужынцы, і водгукі гэтай варожасьці, праўда ў падзалочаным выглядзе, мы знаходзім на шпальтах „Маладой Беларусі".

Кожны часапіс, які пачынае выходзіць у сьвет, распачынае з апублікаваньня сваёй праграмы, дзе крысталізуецца ейная ідэолёгія.

Так і павінна быць, бо толькі часапіс, маючы пэўную грамадзка-палітычную ідэолёгію заслугоўвае на ўвагу і можа быць карысны грамадзянству.

Замест гэтакага ідэолёгічнага „credo" — у „Маладой Беларусі" мы знаходзім ідэолёгічную пустату, а што найгорш — выразную дэструкцыю, паскольні гэты часапіс у сваім уступным і рэдакцыйным артыкуле нічога больш паважнага не знашоў, як вострую і зусім не адпавядаючую запраўднаму стану рэчаў крытыку беларускіх арганізацыяў і дзеяльнасьці старэйшай гэнэрацыі нашага грамадзянства.

Паскольні з рэдакцыйнага артыкулу мы маглі толькі даведацца пра галоўную мэту, з якою пачала выдавацца «Маладая Беларусь» — то з артыкулаў «маладых» М. Шкялёнка і В. Грышкевіча мы можам пазнаёміцца з тым абвінавачваючым матэрыялам, каторы аўтары сабралі проці «старых».

Праўда, матэрыял гэты нічога новага нам не дае, бо ў гэтай самай форме і такжа тэндэнцыйна і вульгарна ён падаваўся ня толькі папярэднікамі „Маладой Беларусі", але і ў прамовах пракурораў, выступаўшых на беларускіх працэсах.

Але як-бы там ні было, затрымацца на ім не пашкодзіць ужо хаця-бы з той прычыны, каб бліжэй прыглядзецца да таго інтэлектуальнага і ідэёвага багажу, з каторым публіцысты з „Маладой Беларусі" выступаюць на шпальтах свайго часапісу.

Перадусім, М. Шкялёнак у артыкуле «Інтэлігенцыя ў культурна-грамадзкім жыцьці» знаходзіць, што сярод беларускага грамадзянства «наглядаецца поўны заняпад усялякае толеранцыі да інакш думаючых і... адсутнасьць пашаны да чужой дзейнасьці... нязгоднай з паглядамі і ацэнай дадзенай групы».

Запраўды, дрэнна выглядала-б уся беларуская справа, каб было ў нас так, як піша аб гэтым гр. Шкялёнак.

Але нам здаецца, што аўтар праўвялічывае гэтакі «заняпад» і робіць з мухі сланя.

У кожным грамадзянстве (а беларускае вынятку ня робіць) змагаюцца розныя сацыяльна-палітычныя і грамадзкія думкі; барацьба-ж гэтакіх думак можа быць і карыснай, калі яна вядзецца сумленна і мае пад сабою ідэолёгічны грунт.

„Велар. Газэты" па загаду закансьпіраваных у К.П.З.Б. жыдоў нагаварывалі сялян падпісваць пратэсты супроць гэных судоў.

Запраўдны жыдоўскі твар К.П.З.Б. выявіў на судзе пракурор, які ў сваёй прамове парушыў агідны і характарны для К.П.З.Б факт.

У свой час, паводле слоў пракурора, сябра К.П.З.Б., беларус Калабін, на партыйным паседжаньні паставіў прапанову, каб выбраць старшынёй Ц.К.К.П.З.Б. беларуса і наагул дапусьціць у Ц.К. больш беларусаў і гэтым вырваць з рук ворагаў падставу цьверджаньня, што ў К.П.З.Б. беларусаў амаль што няма. Такая прапанова абурыла ўвесь Ц.К. партыі, у выніку чаго Калабіна за пару тыдняў знайшлі ў Вільні на Новым Сьвеце застрэленага.

Вось што спаткала сябру К.П.З.Б. беларуса, які хацеў каб у гэтай партыі кіравалі беларусы, а ня жыды. Не мяняе справы і тое, калі-б прыпушчальна такі Калабін быў правакатарам. Нас цікавіць толькі факт, што ягоная прапанова, ў якіх-бы ня была пастаўлена мэтах — цьвердзіць пра жыдоўскае панадырства ў К П.З.Б. — Магчыма, што ня ўсе, ідучыя на камуністычна-жыдоўскім павадку, беларусы ведаюць хто імі кіруе, бо ня ўсім зразу адкрываюцца сьцежкі і дарожкі да бальшавіцкага раю. Пішучаму гэтыя радкі казаў адзін былы камуністычны дзеяч, уцёкшы з „савецкага раю", што, напрыклад, у прошлым годзе у Ц.К. К.П.З.Б. быў толькі адзін беларус, нейкі Корчык.

Дык калі гэта скончыцца? — ставім тут пытаньне. — Як доўга яшчэ будуць знахо-дзіцца наіўныя баранкі ідучыя на жыр жыдоўскай пасхі?

Гэткае пытаньне трэба паставіць тым больш цяпер, калі камуністы выдумалі новую прыманку — „народны фронт" і гэтым далей хочуць атуманіваць наіўных, каб заграбаўшы іхнімі рукамі жар, пасадзіць іх у польскія турмы, а пасьля „выменяць" і... саслаць на Салаўкі, Сыбір, або і растраляць. *К.*

## Апошнія выбары ў Нямеччыне.

29-га сакавіка г. г. адбыліся ў Нямеччыне выбары, каторыя былі фактычна плебісцытам.

Гітлераўскі ўрад зьвярнуўся да нямецкага народу з запытаньнем — ці ён згаджаецца з дасюлешняю вонкаваю і нутранаю палітыкаю Гітлера.

Лёзунгі, пад каторымі праводзіліся выбары зводзіліся, паводлуг нямецкай прэсы, да наступных:

1) удзяленьне апрабаты палітыцы сувэрэннасьці, завяршэньнем каторай было скасаваньне здэмілітарызаванай паласы;

2) выражэньне ўдзячнасьці канцлеру Гітлеру за адбудову Нямеччыны;

3) сьцьвярджэньне, што выяўленая праз канцлера Гітлера воля да супакою ёсьць адначасна воляю ўсяго нямецкага народу;

4) выказаньне поўнага даверу для канцлера Гітлера, якое павінна яго ўзмацніць для дабра Нямеччыны.

Гэнае галасаваньне, якое адбылася ў поўным парадку, выявіла нігдзе дагэтуль нена-

---

Урэшце, карыснасьць або шкоднасьць той ці іншай думкі ёсьць паняцьцем умоўным і дзеля гэтага кожны чалавек расцэньвае іх па свойму.

Мы, напрыклад, залічаем дзейнасьць М. Шкялёнка, каторы займае адказныя становішчы ў беларускіх установах, да дзейнасьці шкоднай, калі ён, як гэта відаць з усяго, салідарызуецца з паглядамі, выказанымі ў „Маладой Беларусі", паводлуг якіх маладая беларуская інтэлігенцыя „ня можа знайсьці сабе працы ў існуючых арганізацыйных формах"... і што яна „павінна знайсьці сабе формы, якія-б дазвалялі ёй на найбольш прадуктыўнае выкарыстаньне сваіх сілаў і здольнасьцяў".

Як нам здаецца «маладая беларуская інтэлігенцыя» будзе яшчэ доўга шукаць і бадай ці знойдзе іх наагул...

Праўда, ейным папярэднікам удавалася нешта зрабіць і ў гэтым кірунку, але праз нейкі час, змайстраваўшы, напрыклад «Скарынію», — ад усей гэтай працы заставаліся адны толькі няпрыемныя ўспаміны...

Бадай ці варта затрымлівацца на іншых „грахох" беларускай інтэлігенцыі, каторыя вылічаюцца М. Шкялёнкам. Усе разважаньні на гэтую тэму маюць зусім прымітыўны характар і даводзяць, на як нявысокай грамадзкай роўні стаяць яшчэ нашыя «маладыя» публіцысты, што падкапываюцца пад беларускую грамадзкасьць.

Для таго, каб ачарніць беларускі адраджэнскі рух патрэбным было напісаць яшчэ адзін артыкул — на гэты раз „уталентаванага" пяра В. Грышкевіча пад назовам: «Ці існуе крызыс беларускага руху».

Тут ужо, запраўды, усё паказана ў такіх чорных хварбах, якімі не малявалі беларускага руху нават ягоныя выразныя ворагі, бо гэтыя апошнія маюць крыху больш аб'ектывізму, чымся аўтар зусім недарэчнага артыкулу, знашоўшага сабе месца на старонках «Маладой Беларусі».

І чаго толькі чытач тут ня знойдзе!

В. Грышкевіч, каб не застрашыць грамадзянства заклікае яго набрацца „адвагі сьмела глянуць сапраўднасьці ў вочы" і пачынае пасьля гэтага выліваць розны бруд і шлякаваць беларусаў.

Пасьля гэтакага артыкулу В. Грышкевічу, запраўды, трэба набрацца адвагі, каб глянуць у вочы ўсяму нацыянальна-дзеючаму беларускаму грамадзянству.

Ніякага беларускага руху няма. Ёсьць толькі грызьня паасобных адзінак з рознымі палітычнымі орыентацыямі. Асабістыя справы і амбіцыі... Усе ад старэйшай інтэлігенцыі адвярнуліся. А ў дадатку і малодшая гэнэрацыя, як відаць, падае вельмі слабыя надзеі, бо ўвесь свой малады запал і творчую фантазію скіравала толькі на тое, каб на-

гляданае аднадумства ўсяго народу, каторае сьведчыць пра надзвычайную нацыянальную салідарнасьць Немцаў.

Ні болш і ня менш — а роўна 99 % усіх меўшых права да галасаваньня аддало свае галасы за Гітлера, а тым самым і за тую палітыку, якую праводзяць нацыянал-сацыялісты ў Нямеччыне.

Нават немцы, каторыя апынуліся паза межамі сваей бацькаўшчыны, таксама прынялі самы жывы ўдзел у галасаваньні.

Гэтак, напрыклад, грамадзяне Нямеччыны, жыўшыя ў Грэцыі галасавалі на параходзе „Арта"; нямецкая калёнія ў Парыжы поўнасьцю выехала да Саарбрюкэн, дзе яна і аддала свае галасы; варшаўскія немцы ў гэтых мэтах выехалі ў Ольштын, і г. д.

У тых краёх, дзе галасаваньне не магло адбыцца з прычын палітычных, немцы прысылалі прывітальныя тэлеграмы Гітлеру, як гэта, напрыклад, было ў Маскве, Шанхаю, Пэкіне, Дайрэне, Сінгапуры і іншых пунктах зямной кулі. — Аб чым гэта ўсё сьведчыць?

А толькі аб тым, што ўвесь нямецкі народ, як адзін чалавек, цьвёрда верыць ў нацыянальна-сацыялістычную ідэолёгію і ў сваіх нацыянальных правадыроў.

Гэта значыць, што й тыя некалькі мільёнаў камуністаў, каторыя былі ў Нямеччыне перад нацыянальна-сацыялістычным пераваротам, пераканаліся ў сваіх памылках.

Да звычайнага ашуканства залічаем мы весткі, распаўсюджваныя камуністычнаю і жыдоўскаю прэсаю, быццам галасаваньне адбылося пад прымусам.

А як-жа вытлумачыць тады масавае галасаваньне тых немцаў, каторыя жывуць паза межамі Нямеччыны і ў адносінах да каторых ніякі прымус проста немагчымы?— Ды толькі тым агульным энтузіязмам, які агарнуў увесь народ. Ніякая сіла не магла-б змусіць мільённыя масы грамадзянства галасаваць проці сваей волі і не хапіла-б, урэшце, паліцэйскай сілы, каб улада захацела прыпільнаваць кожнага выбаршчыка.

Марксысты, жыды, камуністы і наагул усе „радыкалы" вельмі прыгнечаныя гэткім вынікам галасаваньня і стараюцца цяпер падарваць ягонае значэньне, але гэта мала ім дапаможа.

Удумваючыся ў той глыбокі працэс, які прычыніўся да нацыянальнага ўздыму немцаў, якія дэманструюць цяпер перад усім сьветам сваю нацыянальную і духовую сілу — мімаволі насоўваецца пытаньне — а чаму гэта маскоўскія камуністычныя правадыры, усе гэтыя Валахі-Літвінавы, Кагановічы, Орджэнікідзы і таму падобны „інтэрнацыянал" на чале са сваім „цудоўным" грузінам Сталіным, не папрабуюць правясьці гэтакі плебісцыт, якога не пабаяўся Гітлер.

На падобны крок ніколі яны не адважацца, бо баяцца працоўнага народу, у аграмаднай большасьці ненавідзячага камуністаў, якія пры дапамозе ашуканства і гвалтаў захапілі ўладу і трымаюць яе крывавым тэрорам.

За гэтую ўладу выказаліся-б толькі жыды ды частка адшчапенцаў, якія коштам нявчасьця мільёнаў працоўных забясьпечылі сабе існаваньне.

---

друкаваць у „Маладой Беларусі" пару пашквіляў на беларускі рух.

„Замест здаровай духоўнай стравы", кажа В. Грышкевіч: „падсоўваліся часта імпартаваныя сурогаты, а мэты арганізацыі... часта аказваліся эфэктоўнымі фэрвэркамі, шумнымі бумамі, патрэбнымі камусь, але не беларускай справе"...

Адным словам, аўтар прыходзіць да перакананьня, што ўсё старое нічога ня варта, а тым самым і ўсе беларускія ўстановы, каторыя дзеюць на нашых землях.

„Змяніліся часы, абставіны, варункі. Патрэбны новыя людзі — з новай энэргіяй, з іншымі мэтадамі працы, з выробленай ідэолёгіяй, з моцнай нязломнай воляй"...

Зусім правільна! Патрэбны новыя людзі (а калі яны былі непатрэбны?), бо на зьмену старым і адыходзючым ад працы трэба, каб прышлі яны, — гэтыя новыя і сьвежыя сілы.

Але бадай ці прыйдзецца спадзявацца, каб паны Грышкевічы нам іх далі, або каб яны скінуліся з неба ў зусім гатовым да працы выглядзе.

Патрэбныя нам людзі могуць выланіцца толькі з беларускіх арганізацыяў, якія вядуць у нас нацыянальна-палітычную і грамадзкую працу і дзе запраўды выпрацоўваюцца моцныя і загартаваныя адзінкі.

Гэтыя арганізацыі і людзі, каторыя імі кіравалі, прычыніліся да таго, што беларускі народ стаўся народам нацыянальна сьведамым, чаго ня можа запярэчыць і сам В. Грышкевіч.

У якіх-жа мэтах друкуюцца падобныя пэсымістычныя разважаньні, зусім не адпавядаючыя нашай запраўднасьці?

На нашу думку — выключна дзеля таго, каб падарваць давер да існуючых беларускіх арганізацыяў і ўсяго нацыянальна-дзеючага грамадзянства.

А калі гэта так—дык падобную „працу" інакш як звычайнаю дэструкцыяю назваць нельга.

Бо, запраўды, ці-ж можа чалавек адданы беларускай справе ігнараваць усё тое, што зроблена нашым грамадзянствам і што прычынілася да агульнага ўздыму беларускай нацыянальнай сьведамасьці і актыўнасьці?

Чаму гэта аўтары-„пэсымісты" ні словам не ўспамянулі ні аб дзеяльнасьці такіх установаў як Інстытут Г. і К., Т. Б. Ш., нацыян.-партыйным будаўніцтве, беларускай коопэрацыі і іншых дадатніх праявах нашага грамадзкага і палітычнага жыцьця?

Чаму ў сваіх разважаньнях яны не зьвярнулі ўвагі на тое галоўнае, што ўстрымлівае нац.-беларускі рух і што ўносіць у яго элемэнт разбурэньня і дэструкцыі, маючы зусім не беларускае паходжаньне?

А чаму гэтыя „ныцікі" нічога не знайшлі

Улада камуністаў трымаецца на штыхох і таму яны ніколі не адважацца на гэтакі экспэрымэнт, які так бліскуча ўдаўся ў Нямеччыне.

*Ф. А.*

## Да чаго яны імкнуцца?

На віленскім балоце паявілася новая ананімная супалка. На гэты раз яна завецца „Нашаю Воляю".

Як і выпадае, кожнай „незалежнай" газэце, запазычаючай сваё натхненьне з блізкага ад нас Усходу, „Н. В." паслугоўваецца ўстабілізаваным камуністычным жаргонам.

Тут табе й фашысты і здраднікі, і прадажнікі і рэакцыя — словам усё, чым прывыклі тэрарызаваць наіўных людзей дзельцы з пад знаку пяціраменнай жыдоўска-камуністычнай зьвязды.

Вышмянаваная супалка паставіла пад дыскусію гэткае пытаньне: „Што рабіць?" (Гл. № 6 Нашай Волі).

Трэба прызнаць ім слушнасьць. Пытаньне пастаўлена сваячасна, бо, запраўды, сярод Беларускага Народу абудзілася нацыянальная сьведамасьць, каторая, выліваючыся ў зусім конкрэтныя формы, пачынае трывожыць ня толькі жыдоў і камуністаў, але наагул усіх, каму залежыць на цемры і нацыянальнай нясьведамасьці беларусаў.

А найбольш, здаецца, занепакоіў нашых „прыяцеляў" „Новы Шлях", каторы справы ставіць выразна, проста, адкрыта і для ўсіх зразумела і каторы з гэтай прычыны знаходзіць усё вялікшае спаўчуцьцё сярод нашага грамадзянства. І вось перад аблічам гэтакай біды рэдактары з „Нашай Волі" прыходзяць да вываду, што перад імі стаіць паважная задача: „адрэзаць ад жывога беларускага арганізму маральную гніль, прадажніцтва і рэакцыю. Паставіць рух на выразную сапраўды народную аснову, выдзяліць з яго радоў сапраўдных кіраўнікоў народу. Гэта цяпер галоўнае і вырашаючае".

Ну як з гэтым не згадзіцца! Сказана чыстая праўда. Мы даўно аб гэтым рупімся і лічым, што маральная гніль і прадажніцтва, якія разьядаюць нашае грамадзкае жыцьцё не ад сёньняшняга дня, павінны быць вынішчаны бязлітасна, бо Беларускі Народ шмат ад іх выцярпеў.

Гэтакія грамадзкія скулы змарнавалі нам Грамаду,ператварыўшы яе ў снарадзьдзе Камінтэрну, які не шкадаваў на яе сваіх даляраў, яны-ж згангрэнізавалі нашыя школы, ападнілі тую частку беларускай прэсы, каторая за чырвонцы выхваляла савецкі кашмар і дэмаралізавала наш народ.

Нішто іншае як маральная гніль і прадажніцтва прычыніліся да таго, што частка б. правадыроў Грамады і Змаганьня разьмяняла сваё сумленьне на савецкую валюту, а адзін з гэтакіх „герояў" запісаўся ў варашылаўскія стралкі, пасьля таго, як пасадзіў сваіх таварышоў у савецкія вастрогі.

Маральная гніль і прадажніцтва камунізуючых беларускіх дзеячоў прывяла да таго, што сотні і тысячы беларускай моладзі, паверыўшы ў іхнія словы, апынуліся на Салавецкіх вастравах.

дадатняга ў нашай нядаўнай мінуўшчыне, гэтак багатай самаахвярнасьцю нашага народу і ягоных павадыроў?

Як-бы мы ні адносіліся да Грамады, Змаганьня і іншых арганізацыяў, мусім аднак, сцьвердзіць, што яны прарабілі вялікую працу, прычыніліся да ўздыму нацыянальнай энэргіі нашага народу.

Кіраваліся яны старэйшым нашым грамадзянствам, якое, ня гледзючы на свае палітычныя памылкі, дало прыклад самаахвярнасьці і вытрываласьці ў імя ідэі агульнага дабра Беларускага Народу.

З усёй беларускай працы, праробленай беларускім грамадзянствам пры надзвычайна цяжкіх і няспрыяючых абставінах „ныцікі" заўважылі толькі... грызьню і асабістыя амбіцыі, а галоўнага яны чамусьці ня бачаць.

Як нам ні сумна ў гэтым прызнацца, але тое, што робяць цяпер нашыя „маладыя" да карыснага для беларускай справы залічыць нельга. Сваімі недарэчнымі разважаньнямі яны, фактычна, льюць ваду на млін тых, хто дэнацыяналізацыю нашага народу паставіў сваёю галоўнаю мэтаю...

Калі разглядаць „публіцыстычную" частку № 1 „Маладой Беларусі", то немагчыма абыйсьці моўчкі парушаную там справу грамадзкага суду над Луцкевічам і Астроўскім. Пашто было друкаваць усё тое, што даўно ўжо абрыдзела беларускаму грамадзянству? Хто такія А. Луцкевіч, Р. Астроўскі, а за імі А. Трэпка. Беларускі народ добра ведае і перастаў цікавіцца іхнімі сямейнымі справамі.

Цяпер яны, вышаўшы з грамадзкай відоўні, ня маюць ніякіх уплываў на кірунак беларускай справы і таму няма патрэбы вяртацца да тых нясмачных успамінаў, каторыя злучаны з іхняю грамадзкаю працаю.

Мы крыху разумеем інтэнцыю радактароў і выдаўцоў „Маладой Беларусі".

Успамінаючы гісторыю „ідэолёгічнага" разлому групы Луцкевіча—Астроўскага яны, відаць, хацелі ад іх адгарадзіцца, каб, барані Божа, ніхто не падумаў, што іхні часапіс мае нешта супольнае з гэтымі панамі, набыўшымі зусім устабілізаваную апінію ня толькі сярод беларускага грамадзянства, але й той часткі польскага, каторая разглядала іхнія сямейныя справы і вынесла свой прыгавар, таксама добра ўсім знаны. З гэтага пункту гледжаньня мо' некая рацыя ў нашых „маладых" і была, бо кожны беларус добра цяпер ведае, што калі ў нас пачынаецца некая дэструкцыйная праца, то звычайна без укрытага кіраўніцтва Луцкевіча і ягоных кампанаў, яна не абыходзілася. Але рэдактары „Маладой Беларусі" не заўважылі таго, што дух школы Луцкевіча „вітае" над іхнім часапісам і што толькі гадунцы гэтай школы маглі ў гэтакі недапушчальны спосаб шлякаваць беларускі рух.

У выніку гэтай хваробы на віленскім грунце пэрыядычна зьяўляюцца „Асвы“, „Бел. Газеты“, „Нашы Волі“ і іншыя падобныя выданьні.

Прадажніцтва, здрада і правакацыя пануюць у тым заканспіраваным серадовішчы, каторае час ад часу стараецца вылязьці на дзеннае сьвятло і тут, у легальны спосаб, атручвае нам паветра, зашчапляе недавер да ўсяго нацыянальна-беларускага, вядзе разьбівацкую працу, уцягвае людзей праз ашуканства і чырвонцы „у камуну“, а пасьля сотнямі і тысячамі заганяе актыўныя і маладыя беларускія сілы ў польскія вастрогі, каб у гэтакі спосаб пастаянна і сыстэматычна абяскроўліваць наша народнае цела.

Што толькі гніль, здрада і прадажніцтва пры поўнай адсутнасьці некіх маральных пачаткаў пануе ў камунізуючым серадовішчы—аб гэтым сьведчаць тыя судовыя працэсы, каторыя адбываюцца на нашых землях і каторыя раскрываюць проста жудасныя рэчы.

Няхай аб гэтым памятаюць „абаронцы“ працоўных, абраўшых беларускую справу за добрую маскіроўку для сваіх ашуканчых і правакацыйных мэтаў, паказаўшых урэшце, свае „беларускае“ аблічча хаця-бы тым, што ні словам ня ўспомнілі пра беларускае сьвята 25 сакавіка, сьвята, якое іх, як камунізуючае жыдоўскае ахвосьце не абыходзіць, а не абыходзіць дзеля таго, што яно выкінена з камуністычных «сьвятцаў».

Ведаем мы, з кім маем дачыненьня!

Але ня толькі мы гэта пазналі—няўхільна і паступова пашыраецца сьведамасьць народных масаў, каторыя ў хуткім часе не пазволяць маскоўскім фараонам спэкуляваць на сацыяльна-палітычных несправядлівасьцях сучаснай дабы. Наступіць такі момэнт, калі нацыянальна дзеючае беларускае грамадзянства зацісьне ў жалезныя абцугі гэты шкадлівы элемэнт, каторы распаўсюджвае маральную гніль і заразу. Гэты час ужо не за гарамі...

З кожным днём сілы нацыянальна-дзеючага грамадзянства нарастаюць і няма сумліву, што мы дойдзем да такой-жа ступені нацыянальнай і арганізацыйнай консолідацыі, да якой дайшла нацыянал-сацыялістычная Нямеччына, каторая не дае спакойна спаць ня толькі жыдом і маскоўскім фараонам, але і іхнім віленскім адгалоскам.

„Наша Воля“ стараецца апляваць увесь нацыянальны беларускі рух і зручна прапагуе ідэю гэтак званага „народнага фронту“, кіраванага, як ведама, маскоўскім камінтэрнам. Гэты „фронт“ мае заданьне працярабіць шляхі да трыумфальнага паходу камуны, а разам з ёю і жыдоў.

Словам, ідэолёгічнае аблічча „Нашай Волі“ зрабілася зразумелым для беларускага грамадзянства.

Мейсца не пазваляе нам на шырэйшае абгаварэньне парушанай справы, але ў будучыні, у меру сваіх тэхнічных магчымасьцяў, мы яшчэ да яе вернемся і будзем асьцярагаць наш народ ад той запраўднай маральнай гнілі, каторую распаўсюджвае ананімная віленская супалка, прыкрываючаяся беларускім плашчом і модным у нас радыкалізмам.

*А. Баброўскі.*

---

Падобную акалічнасьць не заўважыць было немагчыма, і мы бачым, што нашы маладыя паэты, Танк і Васілёк заявілі пратэст проці памянёных намі публіцыстычных артыкулаў і, на нашу думку, зрабілі добра. (Гл. „Наша Воля“ № 5/6/1936 г.).

Цяпер пяройдзем да навуковай творчасьці нашых „маладых“, каторыя ў праграму сваёй дзеяльнасьці паставілі нэгацыю ўсяго таго, што зроблена да гэтай пары старэйшым грамадзянствам.

Перадусім, ёсьць у гэтым нумары адзін навуковы артыкул Янкі Станкевіча: Повесьці і апавяданьні беларускіх (крывіцкіх) летапісцаў, каторы наша моладзь на свой рахунак прыняць ня можа, бо аўтару артыкулу перавалiла, здаецца, на шосты дзесятак.

Ня будзем уваходзіць тут у крытыку гэтага артыкулу, бо лічым, што ён, як маючы выняткова спэцыяльны характар, павінен быць зьмешчаны ў нейкім спэцыяльным гістарычным часапісу, або паказацца ў сьвет асобнаю брашураю.

Заслугоўвае на ўвагу толькі артыкул Р. Шырмы, каторы, запраўды, захопліваюча піша пра беларускую песьню і яе патрэбы.

Але зноў-жа і гэты артыкул напісаны чалавекам, галава якога пакрываецца сівымі валасамі.

І адзін толькі Ст. Станкевіч, каторага можна залічыць да маладых, падаў крытычны агляд новай беларускай паэзыі, але тое самае ён мог-бы зрабіць і ў тых часапісах, каторыя выходзілі да нараджэньня „Мал. Беларусі“ і выходзяць цяпер.

Акрамя гэтых артыкулаў нічога навуковага ці праграмовага на шпальтах яе мы не знаходзім.

А цяпер паўстае пытаньне—якія-ж такія ідэі, каторыя не змаглі ўлезьці ў рамы існуючых часапісаў апанавалі гэтых аўтараў, каб патрэбным было ўзяцца за выданьне новага часопісу?

Гэтакіх ідэяў мы не знаходзім і таму маем усе падставы да таго, каб сказаць, што галоўным «мотарам», пхаючым да падобнага чыну была ахвота падарваць існуючыя літэратурныя часапісы.

Ня будзем браць на сябе адказнасьці і цьвердзідь, што гэтакая праца зьявілася ў выніку злой волі групы „маладых“ рэдактараў і выдаўцаў, але як-бы там ні было, аб'ектыўна яны прычыніліся да дэмаралізацыі беларускага грамадзянства і пацехі нашых ворагаў.

*Ф. Акінчыц.*

Рэдактар і выдавец: Ул. Казлоўскі. Галоўны рэдактар: Рэдакцыйная Калегія.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1—3.